Асамблея няўрадавых дэмакратычных арганізацый Беларусі
Інстытут “Палітычная сфера”

# ДАЙДЖЭСТ ДАСЛЕДАВАННЯЎ АРГАНІЗАЦЫЙ ГРАМАДЗЯНСКАЙ СУПОЛЬНАСЦІ 2018–2019

Навуковы рэдактар:
Андрэй Казакевіч, PhD in Political Science

**Мінск**

2020

# Змест

## Содержание

### Грамадзянская супольнасць, грамадскі актывізм



### Публічная палітыка, дзяржаўнае кіраванне



### Правы чалавека, барацьба з дыскрымінацыяй

# **Дайджэст даследаванняў** грамадзянскай супольнасці 2018–2019

## Паважаныя чытачы!

Вы трымаеце ў руках пілотны выпуск «Дайджэста даследаванняў грамадзянскай супольнасці», падрыхтаваны Асамблеяй НДА Беларусі сумесна з Інстытутам палітычных даследаванняў «Палітычная сфера».

Пры падрыхтоўцы публікацыі мы ставілі перад сабой дзве асноўныя задачы: прадэманстраваць высокі экспертны патэнцыял арганізацый грамадзянскай супольнасці ў сферах іх дзейнасці і распаўсюдзіць вынікі даследаванняў, праведзеных некамерцыйнымі арганізацыямі ў 2018–2019 гадах.

Выданне будзе карысным прадстаўнікам дзяржаўных органаў, органаў мясцовага кіравання і самакіравання, экспертных саветаў пры дзяржаўных органах, прадстаўнікам міжнародных і замежных арганізацый, якія спецыялізуюцца на працы з Беларуссю, і ўласна беларускім арганізацыям грамадзянскай супольнасці.

Агулам у дайджэст увайшло 22 даследаванні, рэалізаваныя беларускімі некамерцыйнымі арганізацыямі ў сферах права, правоў чалавека, журналістыкі, палітыкі, экалогіі і сацыялогіі. Частка з гэтых даследаванняў была прадстаўлена на секцыі «Даследаванні грамадзянскай супольнасці» ў межах VIII Кангрэсу даследчыкаў Беларусі (27–29 верасня 2019 года, Вільня), іншыя былі адабраныя Асамблеяй НДА на падставе маніторынгу.

Кожнае даследаванне прадстаўлена ў выглядзе рэзюмэ і асноўных вывадаў, адкуль вы можаце даведацца пра арганізатараў даследавання, яго аўтараў, мэту, метады і год правядзення даследавання, ключавыя словы, а таксама кантакты і спасылку на поўны тэкст.

Для большай эфектыўнасці распаўсюду інфармацыі сярод міжнарожных і замежных арганізацый выданне было таксама перакладзена і выдадзена ў англійскай моўнай версіі.

Мы хочам падзякаваць Міжнароднай арганізацыі Pact, Baltic Internet Policy Institute, Офісу еўрапейскай экспертызы і камунікацыі, Цэнтру еўрапейскай трансфармацыі, Цэнтру прававой трансфармацыі (Lawtrend), АГА «Фонд імя Льва Сапегі», Цэнтру даследавання грамадскага кіравання «СІМПА», Грамадскай кампаніі «Людзі перадусім» (#peoplefirst), Праваабарончай ініцыятыве «Журналісты за талерантнасць», БНМС «РАДА», Мінскаму міжнароднаму адукацыйнаму цэнтру імя Іаганеса Рау (IBB Minsk), АПУ «Офіс па правах людзей з інваліднасцю», РПГА «Беларускі Хельсінкскі камітэт», РГА «Прававая ініцыятыва», ГА «Экадом», Human Constanta, МАГА «АКТ», ПЦ «Вясна» і іх партнёрам за правядзенне даследаванняў і ўдзел у распрацоўцы дайджэста. Асобная падзяка належыць Інстытуту палітычных даследаванняў «Палітычная сфера», які адказваў за падрыхтоўку тэкстаў дайджэста і падрыхтоўку выдання да друку.

З павагай,

**Выканаўчае бюро Асамблеі НДА Беларусі**

# **CSO Meter. Ацэнка прававога асяроддзя** дзейнасці грамадзянскай супольнасці



| | |
|---|---|
| **Год правядзення:** | 2019 |
| **Галіна:** | правы чалавека, грамадзянская супольнасць |
| **Ключавыя словы:** | свабода асацыяцыі, фінансаванне няўрадавых арганізацый, свабода слова, свабода мірных сходаў |
| **Арганізацыя:** | Асамблея НДА Беларусі,<br>Цэнтр прававой трансфармацыі (Lawtrend).<br>У межах рэгіянальнай праграмы Еўрапейскага цэнтра некамерцыйнага права (ECNL).<br><br>Асамблея НДА Беларусі – найбуйнейшая ў Беларусі асацыяцыя некамерцыйных арганізацый і ініцыятыў. Сваёй дзейнасцю Асамблея НДА спрыяе развіццю грамадскага сектара і паляпшэнню становішча са свабодай асацыяцый у Беларусі. Арганізацыя была створана ў 1997 г.<br><br>Цэнтр прававой трансфармацыі Lawtrend – некамерцыйная арганізацыя, мэтай якой з’яўляецца павышэнне прававой культуры, арганізацыя адукацыйнай, аналітычнай і даследчай дзейнасці ў галіне права. |
| **Кантакты:** | http://www.belngo.info, ngo@belngo.info<br>http://www.lawtrend.org, infolawtrend@gmail.com |
| **Спасылкі на публікацыю:** | Калі ласка, націсніце тут<br>Калі ласка, націсніце тут (руская версія)<br>Калі ласка, націсніце тут (англійская версія) |
| **Аўтары і партнёры:** | **Юрый Чавусаў** – юрыст Асамблеі НДА Беларусі.<br>**Вольга Смалянка** – дырэктар Цэнтра прававой трансфармацыі (Lawtrend). |

# Мэта

На дадзены момант у Беларусі склалася адносна спрыяльная сітуацыя для прасоўвання прававых рэформаў і паляпшэння варункаў дзейнасці арганізацый грамадзянскай супольнасці (АГС). Мэтай даследавання з’яўляецца падтрымка і спрыянне развіццю пазначаных станоўчых тэндэнцый праз стварэнне ўсёабдымнай мапы прававых рэформаў, якія закранаюць дзейнасць АГС.

CSO Meter скіраваны на тое, каб зрабіцца не толькі сродкам вымярэння паступовых змяненняў асяроддзя дзейнасці грамадзянскай супольнасці ў Беларусі, але таксама новым і магутным сродкам кансалідацыі намаганняў беларускіх АГС у галіне адвакатавання агульных інтарэсаў і рэформаў.

# Метады і методыкі

Даследаванне з’яўляецца часткай рэгіянальнага агляду прававога асяроддзя і практыкі дзейнасці арганізацый грамадзянскай супольнасці ў шасці краінах Усходняга партнёрства ў 2017–2019 гадах.

CSO Meter быў распрацаваны ў межах працэсу кансультацый і супрацоўніцтва, падтрыманага Еўрапейскім цэнтрам некамерцыйнага права (European Center for Not-for-Profit Law). Метадалогія была падрыхтаваная групай мясцовых экспертаў у ходзе трох раўндаў кансультацый з больш чым 807 АГС з усяго рэгіёна.

Агляд ахоплівае больш за 160 індыкатараў, якія адлюстроўваюць ступень адпаведнасці сітуацыі ў Беларусі міжнародным стандартам у дзесяці сферах, што ўплываюць на ўмовы для дзейнасці няўрадавых арганізацый.

Індыкатары датычаць як заканадаўства, так і праваўжывальнай практыкі. У тым ліку: свабоды асацыяцыі, раўнапраўя, доступу да фінансавання, свабоды мірных сходаў, удзелу ў прыняцці рашэнняў, свабоды выказвання меркаванняў, права на недатыкальнасць прыватнага жыцця, дзяржаўнай абароны і падтрымкі, супрацоўніцтва паміж дзяржавай і грамадзянскай супольнасцю.

Падчас гэтага даследавання былі арганізаваныя анлайн-апытанне 118 беларускіх АГС, цыкл фокус-груп і інтэрв’ю з лідарамі АГС, а таксама прааналізавана заканадаўства і бягучая праваўжывальная практыка. Пры гэтым улічваліся матэрыялы кансультацыйнай дзейнасці арганізатараў даследавання ў галіне прававой дапамогі АГС, а таксама матэрыялы адвакацыйных дзеянняў.

За падрыхтоўкай справаздачы назіраў Кансультатыўны савет, у склад якога ўваходзяць прадстаўнікі ключавых мясцовых зацікаўленых бакоў, што забяспечвае адпаведнасць высноў і рэкамендацый агульнай сітуацыі ў краіне.

# Асноўныя вынікі

Праведзенае даследаванне дазваляе сфармуляваць наступныя рэкамендацыі для ўдасканалення прававога асяроддзя дзейнасці АГС:

1. Змяніць заканадаўства аб рэгістрацыі АГС такім чынам, каб усе АГС маглі карыстацца парадкам рэгістрацыі, набліжаным да de facto паведамляльнага парадку, палітычна матываваныя і не заснаваныя на законе адмовы ў рэгістрацыі павінны быць выключаныя.

2. У працэсе ўдасканалення заканадаўства варта ўлічваць асаблівасці АГС, даючы ім неабходныя перавагі і прэферэнцыі ў сувязі з іх некамерцыйнай дзейнасцю. У той жа час варта пазбягаць практыкі дыскрымінацыі АГС у параўнанні з камерцыйнымі арганізацыямі.

3. Пашырыць доступ АГС да фінансавання як з мясцовых, так і з замежных крыніц. Неабходна скасаваць абмежаваны пералік мэт, для якіх такое фінансаванне магчымае, і скасаваць забарону для грамадскіх аб'яднанняў самастойна займацца прадпрымальніцкай дзейнасцю.

4. Пашырыць працэдуру правядзення масавых мерапрыемстваў у паведамляльным парадку на ўсе незабароненыя месцы і зрабіць працэдуру правядзення любых пікетаў такой жа, як цяпер ужываецца да пікетаў па зборы подпісаў у перыяд выбараў. Адмяніць абавязковае для арганізатараў масавых мерапрыемстваў заключэнне дамоваў з міліцыяй, службамі хуткай дапамогі і арганізацыямі па прыборцы тэрыторыі.

5. Зрабіць усе арганізацыйныя і прававыя формы АГС роўнымі ў іх праве ўдзельнічаць у працэсе прыняцця рашэнняў, выкарыстоўваючы тэрмін «некамерцый-

*Ці сустракалася ваша арганізацыя ў сваёй дзейнасці з перашкодамі з боку дзяржавы? (па выніках анлайн-апытання АГС)*




*Ці ўдзельнічала ваша арганізацыя ў працэсах прыняцця рашэнняў за апошнія два гады? (па выніках анлайн-апытання АГС)*



ныя арганізацыі» замест «грамадскіх аб'яднанняў» у адпаведным заканадаўстве. Распаўсюдзіць практыку, калі ўсе зацікаўленыя АГС запрашаюцца на кансультацыі па праектах заканадаўчых актаў, замест практыкі, калі дзяржаўныя органы прымаюць рашэнне запрасіць толькі асобныя АГС. Публікаваць гадавыя планы заканадаўчай дзейнасці ўрада і прэзідэнта па распрацоўцы не толькі законапраектаў, але і праектаў указаў і дэкрэтаў.

6. Публікаваць праекты законаў у Інтэрнэце ў іх актуальнай і пастаянна абнаўляльнай форме ў адпаведнасці з бягучым этапам працэсу разгляду законапраектаў, на якой яны знаходзяцца, а таксама публікаваць праекты ўказаў і дэкрэтаў прэзідэнта на этапе падрыхтоўкі такіх актаў.

7. Замацаваць у заканадаўчых актах абавязак уносіць законапраекты ў парламент, прымаць законы, пастановы ўрада, указы і дэкрэты прэзідэнта на дзвюх дзяржаўных мовах — рускай і беларускай.

8. Распрацаваць з удзелам зацікаўленых АГС і прыняць закон аб узаемадзеянні дзяржаўных органаў і недзяржаўных НКА. Заканадаўча замацаваць палажэнні аб недыскрымінацыйнай і адкрытай сістэме фінансавання недзяржаўных НКА з дзяржаўнага бюджэту на конкурснай аснове.

9. Распрацаваць з удзелам шырокага кола АГС і дзяржорганаў дакумент аб супрацоўніцтве АГС з дзяржавай і прыняць яго ў выглядзе пастановы ўрада з планам дзеянняў на перыяд да трох гадоў, прадугледзеўшы ў ім фінансаванне АГС-сувыканаўцам на конкурснай аснове.

*Як вам здаецца, ці лёгка працаваць АГС у вашай краіне? (па выніках анлайн-апытання АГС)*



# **Гражданское общество Беларуси:** актуальное состояние и условия развития (2015–2017)

ГРАМАДЗЯНСКАЯ СУПОЛЬНАСЦЬ, ГРАМАДСКІ АКТЫВІЗМ

| | |
|---|---|
| **Год проведения:** | 2018 |
| **Направление:** | социология, гражданское общество |
| **Ключевые слова:** | гражданское общество, общественные инициативы, отношение НГО и государства |
| **Организация:** | Центр европейской трансформации,<br>Центр правовой трансформации Lawtrend.<br><br>Центр европейской трансформации (Center for European Transformation) — беларусский независимый think-tank, основанный в марте 2010 года. ЦЕТ входит в структуру Международного консорциума «Евро-Беларусь».<br><br>Центр правовой трансформации Lawtrend – некоммерческая организация, целью которой является повышение правовой культуры, организация образовательной, аналитической и исследовательской деятельности в области права. |
| **Контакты:** | https://cet.eurobelarus.info, cet@eurobelarus.info<br>https://lawtrend.org, infolawtrend@gmail.com |
| **Ссылка на публикацию:** | Пожалуйста, нажмите здесь |
| **Авторы и партнеры:** | **Оксана Шелест,**<br>**Андрей Егоров,**<br>**Ольга Смолянко** |

Исследование проводилось по инициативе Беларусской национальной платформы Форума гражданского общества Восточного партнерства (БНП).

## Цель

Реализация задач Беларусской национальной платформы Форума гражданского общества Восточного партнерства требует регулярной оценки состояния гражданского общества и условий его развития. Однако такой оценки на момент проведения исследования не было, данные различных исследований давали описание фрагментов поля и отдельных процессов, но не претендовали на схватывание общих тенденции и характеристик. Данное исследование стремится восполнить существующий пробел комплексного описания гражданского общества Беларуси, охватывая состояние и динамику его развития в период 2015–2017 гг.

## Методы и методики

Исследование представляет собой «мэппинг» беларусского третьего сектора за период 2015–2017 гг. Первая часть исследовательского отчета посвящена описанию объема и структуры сектора, общих тенденций в его развитии, а также подробному анализу 15 тематических секторов — от правозащитного до экологического. Во второй части анализируются условия развития гражданского общества в Беларуси – политические, правовые, институциональные, – а также влияние на третий сектор изменений в медийной среде.

*Принципы:* участие основных стейкхолдеров (партисипаторный подход), интеграция фактических данных и субъективной перспективы акторов гражданского общества; включение данных предыдущих исследований и данных существующих документальных источников в структуру исследования.

*Основные методы сбора информации:*

- Полуструктурированные интервью с лидерами и активистами секторов со стажем общественной деятельности в своем секторе не менее трех лет. Всего 40 интервью. Выборка для интервью сбалансирована по признаку тематики деятельности.
- Анализ законодательных источников и практики правоприменения.
- Анализ и обобщение данных предыдущих исследований, статистических данных и данных документальных источников.

## Основные выводы

Количество организаций гражданского общества в сравнении с другими странами сходного уровня экономического развития остается достаточно низким. При этом возникает все больше неформальных и не стремящихся к формализации инициатив, преимущественно социального, культурного характера.




*Внешние факторы, названные экспертами из тематических секторов ОГО в качестве негативно влияющих на развитие своего сектора*

Сохраняется диспропорция в развитии отдельных секторов гражданского общества. Более того, если раньше внутренняя политика беларусского государства и поддержка западных игроков работали на развитие разных секторов, то в последние годы в связи с изменением установок международных структур эти две политики все больше сближаются. В результате, общественная активность все больше перенаправляется в сферы, далекие от политического и гражданского образования и действия.

Региональная диспропорция развития гражданского общества и доминирование Минска и крупных городов как мест основной деятельности организаций гражданского общества сохраняется, хотя в последние годы доля региональной активности в отдельных секторах повышается.




*Наиболее распространенные внутренние проблемы, названные экспертами из тематических секторов ОГО в качестве сдерживающих развитие сектора*

Доминирование сервисно-ориентированных организаций в общей структуре гражданского общества увеличивается, новых членских организаций практически не создается, членство в устоявшихся организациях такого типа часто носит формальный характер. Наблюдается рост количества учреждений в общей доле новых общественных организаций. Рост количества нечленских организаций (или формализация, имитация членских отношений) приводит к низкой востребованности демократических механизмов принятия решений.

Сохраняется разделение беларусской властью гражданского общества по признаку его независимости и лояльности. При этом при выборе партнеров для взаимодействия играют роль не только актуальная позиция организаций или активистов, но и их история. Уровень кооперации государственных структур с организациями гражданского общества (ОГО) ограничен в абсолютном большинстве случаев уровнем консультаций. Участие гражданского общества в различных стадиях принятия решений ограничивается вопросами подготовки решений. Кроме единичных случаев, ОГО исключены из стадий выбора решений, их исполнения, мониторинга и пересмотра.

Влияние доноров на стратификацию внутри сектора остается высоким, несоответствие их политики потребностям самого сектора (тенденции на работу с «прозрачными» организациями, фокусировка на конкретных темах и т. п.) отмечается практически во всех секторах ОГО. Наблюдается рост контролируемых государством ОГО в общем количестве организаций гражданского общества в последние три года,

причем в разных секторах и направлениях. Независимые ОГО все больше вытесняются из сферы получения иностранной безвозмездной помощи.

Растет практика привлечения внутренних ресурсов для обеспечения деятельности ОГО, развиваются инструменты краудфандинга и краудсорсинга, интенсифицируется коммуникация и взаимодействие с бизнесом. Распространение таких практик ограничено, во-первых, несовершенством беларусского законодательства, которое не способствует развитию благотворительности и финансовому участию в общественных делах как физических, так и юридических лиц, а во-вторых, уровнем благосостояния и гражданской культуры в стране. Для ряда сфер и тем (правозащитная деятельность, инфраструктурные проекты в сфере культуры и образования, стигматизированные темы в социальной политике) такого рода внутренние ресурсы в близкой перспективе не станут доступны.

Осведомленность населения о деятельности гражданского общества остается также на низком уровне, гражданское общество как субъект не появляется на экране массового сознания. Вовлеченность беларусского населения в деятельность организаций гражданского общества остается довольно низкой, однако меняется состав и социальная структура активной части общества.

Изменение региональной ситуации, новый виток противостояния между Россией и Западом, разворачивание информационной войны продуцируют ряд вызовов, к адекватному ответу на которые беларусское гражданское общество сегодня не готово, поэтому вынуждено претерпевать изменение условий своей деятельности, приспосабливаясь к новой ситуации.

Политические условия в стране остаются стабильно неблагоприятными для развития гражданского общества, несмотря на риторику либерализации, никаких реальных изменений за последние три года не фиксируется. Уровень ограничений свободы деятельности гражданского общества, включая неблагоприятный правовой и финансовый климат, практически не изменился. Наблюдается разрыв между законами и практикой правоприменения, а также избирательность правоприменения.

# **Общественные объединения и инициативы граждан в Беларуси:** потенциал участия

| | |
|---|---|
| **Год проведения:** | 2019 |
| **Направление:** | социология, гражданское общество |
| **Ключевые слова:** | общественные организации, инициативы граждан, волонтерство, потенциал участия |
| **Организация:** | Baltic Internet Policy Initiative,<br>Офис европейской экспертизы и коммуникации.<br><br>Baltic Internet Policy Initiative – некоммерческая общественная организация. Миссия организации – содействие эффективному использованию цифровых технологий для демократических практик посредством исследований и стратегического консультирования в Беларуси и странах Балтийского региона.<br><br>Офис европейской экспертизы и коммуникаций – некоммерческая организация, миссия которой – обеспечивать легкий доступ к информации и экспертизе людям и организациям, которые стремятся позитивно изменить свою жизнь, жизнь организаций, сообществ и Беларуси как части Европы. |
| **Контакты:** | http://e-belarus.org, info@e-belarus.org<br>https://oeec.by, oeec.ngo@gmail.com |
| **Ссылка на публикацию:** | Пожалуйста, нажмите здесь |
| **Авторы и партнеры:** | **Марина Соколова,<br>Михаил Дорошевич** |

## Цель опроса

Предоставление данных для разработки стратегий, планов деятельности и проектных заявок общественных объединений и инициатив.
Существенным элементом разработки стратегий, планов деятельности и проектных заявок является наличие достоверных данных об осведомленности населения о деятельности общественных организаций и инициатив граждан, отношении к ним и готовности участвовать в их деятельности.
Исследование было проведено с целью получения таких данных.

## Методы и методики

Опрос беларусской интернет-аудитории. Опрос предусматривал измерение:
- осведомленности и включенности граждан в деятельность общественных организаций и инициатив;
- потенциала участия в деятельности этих организаций и инициатив.

Опрос проводился в формате всплывающего окна, показанного выбранным в случайном порядке пользователям сайтов. Структура выборки скорректирована путем взвешивания данных по полу, возрасту, региону и местности проживания респондентов. Анкета состояла из 23 вопросов (17 основных и 6 социодемографических). Социодемографическая часть анкеты включала вопросы о поле, возрасте, месте проживания (по областям), типу местности, образованию и занятости респондентов. В опросе приняли участие 1414 респондентов.

## Основные результаты

Опрос показал наличие значительного потенциала участия. Респондентов, готовых принять участие в деятельности общественных организаций и инициатив граждан, в три раза больше, чем тех, кто уже вовлечен в их деятельность.
Наиболее востребованными сферами деятельности респонденты считают экологию, права человека, здоровый образ жизни, социальную сферу и культуру.

По данным опроса, 71% респондентов знают о деятельности общественных организаций и инициатив в своем населенном пункте и/или регионе. Хорошо осведомлена об их деятельности примерно треть из них. Причем в сельской местности таких респондентов меньше, чем в городах (22 и 30–35 % соответственно). Наиболее осведомлены респонденты в возрасте 15–24 и 55–74 лет.

69% респондентов положительно относятся к деятельности общественных организаций и инициатив граждан, 27% не видят особого смысла в их деятельности (вариант ответа «не приносят ни вреда, ни пользы»), а 4% не одобряют такую деятельность. Негативное отношение преобладает среди респондентов старше 55 лет, живущих в сельской местности.

58% доверяют деятельности общественных организаций и инициатив граждан. Четкая позиция в отношении доверия сформирована у пятой части респондентов (11% доверяют, 9% не доверяют). Респондентов с такими и позициями больше в возрастной группе 15–24 лет и среди тех, кто находится на пенсии по инвалид-

## ОСВЕДОМЛЕННОСТЬ




71% респондентов знают о деятельности общественных организаций и гражданских инициатив в своем населенном пункте и/или регионе.




72% хотели бы знать больше

ности. 55% респондентов считают, что общественные организации должны заниматься решением проблем местных сообществ, но только 31% согласны с тем, что это происходит. Реакция в социальных сетях и публикации в средствах массовой информации — основные источники для оценки деятельности организаций и инициатив. Однако самый надежный критерий — собственный опыт участия респондентов.

Интересные проекты и ценности общественных организаций и инициатив мотивируют большинство респондентов к участию в их деятельности. Для молодежи в возрасте 15–24 лет возможности самореализации, контакты с приятными людьми и оплачиваемая работа важнее, чем для старших возрастных групп. С возрастом увеличивается важность таких мотивов, как ценности организации и просьба о помощи тем, у кого возникают проблемы. Основными барьерами участия, по мнению респондентов, являются отсутствие информации о том, «как именно можно участвовать (куда обращаться, где и как проходят мероприятия)», недостаточная активность организаций по расширению круга участников («меня никто не просил, ко мне никто не обращался») и недостаток времени.

Среди респондентов, которые знают о деятельности общественных организаций и инициатив в своем населенном пункте и/или регионе, 20% активно участвуют в их деятельности, 11% уверены, что будут принимать участие, 51% не исключает такой возможности, 12% не готовы принимать участие и 7% затруднились ответить. Среди респондентов, активно участвующих в их деятельности, больше учащихся, пенсионеров по возрасту и тех, кто работает больше 40 часов в неделю.

*Доверие к общественным организациям и инициативам граждан в различных сферах*



Отношение к сферам деятельности зависит от возраста и места жительства респондентов. Если экология равно важна для всех респондентов, то права человека перемещаются на вторую позицию для возрастных групп 25–34 и 45–54 и на третью — для возрастной группы 55–74. Здоровый образ жизни занимает вторую позицию для респондентов 15–24 лет, третью – для респондентов 45–74 лет, 4 и 5 для респондентов 25–34 и 35–44 соответственно. Социальная сфера оказывается более важной для респондентов 35–44 и 55–74 лет (вторая позиция) и менее важной для респондентов 25–34 лет (пятая позиция). Поддержка бизнеса важнее для респондентов 25–44 лет (третья и четвертая позиции соответственно). В пятерку важнейших для респондентов в возрасте 15–24 лет вошли наука, 45–44 лет — благотворительность, 55–74 — информирование.

***Опрос показал наличие значительного потенциала участия в деятельности общественных организаций и инициатив граждан.*** Возможные форматы использования потенциала участия: более активное информирование о деятельности организаций и инициатив, повышение уровня доверия к ним.

***Основные критерии оценки деятельности общественных организаций и инициатив граждан:*** личное участие в мероприятиях и реакция в социальных сетях.

***Основные мотивы для участия:*** интересные проекты, совпадение ценностей, стремление помочь другим и ясные цели организаций и инициатив.

***Основные барьеры:*** недостаточная осведомленность о возможностях участия, недостаток ресурсов (время и компетенции) и недостаточная степень удовлетворенности деятельностью общественных организаций и инициатив.

***Наиболее востребованные сферы деятельности:*** экология, права человека, здоровый образ жизни, социальная сфера, культура.

***Наиболее высокий потенциал участия:*** среди жителей сел и поселков в возрасте 15–24 лет.

# **Узаемадзеянне грамадзянскай супольнасці і дзяржавы** на нацыянальным і мясцовым узроўнях

| | |
|---|---|
| **Год правядзення:** | 2018–2019 |
| **Галіна:** | сацыялогія, грамадская палітыка |
| **Ключавыя словы:** | грамадзянская супольнасць, узаемадзеянне НДА і дзяржавы, мясцовая палітыка |
| **Арганізацыя:** | Цэнтр даследавання грамадскага кіравання «СІМПА» (The center of public administration research «SYMPA»). Мэта дзейнасці «СІМПА» — прасоўванне рэформы сістэмы публічнага адміністравання ў Беларусі ў адпаведнасці з сучаснымі прынцыпамі і практыкамі: празрыстасць, інклюзіўнасць, падсправаздачнасць, эфектыўнасць. Асноўнымі кірункамі дзейнасці «СІМПА» з'яўляюцца адукацыя, даследаванні і маніторынг (публічных фінансаў і дзяржзакупак). Мы аб'ядноўваем людзей, якія імкнуцца палепшыць якасць кіравання ў нашай краіне.<br><br>Даследаванне ажыццяўлялася ў межах праграмы «Разам да справы!» у супрацоўніцтве з грамадскай культурніцкай кампаніяй «Будзьма беларусамі!». |
| **Кантакты:** | http://sympa-by.eu<br>sk@sympa-by.eu |
| **Спасылка на публікацыю:** | Калі ласка, націсніце тут |
| **Аўтары і партнёры:** | **Таццяна Кузіна, Наталля Рабава, Святлана Кулеш** |

## Мэта

Мэтай даследавання было вывучыць стаўленне насельніцтва Беларусі да арганізацый грамадзянскай супольнасці, вызначыць узровень даверу да іх у параўнанні з даверам да іншых грамадскіх інстытутаў, а таксама вывучыць агульны фон даверу ў беларускім грамадстве.

Акрамя таго, ва ўмовах больш шырокіх магчымасцяў удзелу грамадзян у прыняцці рашэнняў і тэндэнцыі на ўзмацненне ўзаемадзеяння грамадзянскай супольнасці і мясцовых органаў улады было цікава ацаніць погляды беларусаў на прынцыпы і спосабы ўдзелу грамадзян у прыняцці рашэнняў, а таксама прасачыць існуючую ўзаемасувязь.

Вывучэнне ўзаемаадносін грамадзянскай супольнасці і мясцовых органаў улады праводзілася з мэтай выявіць спецыфіку гэтага ўзаемадзеяння на мясцовым узроўні, а таксама дынаміку за апошнія некалькі гадоў. Становішча грамадзянскай супольнасці Беларусі па-ранейшаму характарызуецца як адно з найбольш уразлівых на постсавецкай прасторы. Назіраны ў апошнія некалькі гадоў працэс некаторага «пацяплення» палітычнага клімату ўнутры краіны не аказаў прыкметнага пазітыўнага ўплыву на становішча арганізацый грамадзянскай супольнасці. Цяперашнія змены пакуль можна назваць хутчэй «фасаднымі», чым кардынальнымі. Аднак не толькі пазіцыя беларускіх уладаў у дачыненні да грамадзянскай супольнасці аказвае ўплыў на яго дынаміку.

Для паспяховага развіцця таксама патрабуецца прадуктыўнае ўзаемадзеянне з навакольным соцыумам. У гэтай сувязі вывучэнне асаблівасцяў сацыяльнага кантэксту, у якім ажыццяўляюць сваю дзейнасць арганізацыі грамадзянскай супольнасці, па-ранейшаму застаецца вельмі актуальным.

## Метады і методыкі

Нацыянальнае сацыялагічнае апытанне, накіраванае на выяўленне адносінаў насельніцтва да грамадзянскай супольнасці. Палявы этап быў рэалізаваны ў снежні 2017 года Беларускай аналітычнай майстэрняй (BAW). Генеральная сукупнасць — усё насельніцтва Рэспублікі Беларусь ва ўзросце ад 18 гадоў уключна. Аб'ём выбаркі — 1063 рэспандэнты ва ўзросце ад 18 гадоў. Хібнасць выбаркі не перавышае 3% з давернай верагоднасцю 95%. Метад правядзення апытання — анкетнае апытанне па месцы жыхарства рэспандэнтаў.

Фокус-групы з удзелам прадстаўнікоў арганізацый грамадзянскай супольнасці, уцягнутых ва ўзаемадзеянне з прадстаўнікамі органаў мясцовага кіравання і мясцовых Саветаў дэпутатаў для вызначэння асноўных праблем у гэтай сферы. Тры фокус-групавыя дыскусіі працягласцю па 2,5 гадзіны былі праведзены ў красавіку 2018 года ў Мінску.

Інтэрв'ю з прадстаўнікамі выканаўчых і распарадчых органаў мясцовага кіравання і мясцовых Саветаў дэпутатаў, якія ўзаемадзейнічаюць з прадстаўнікамі грамадскіх арганізацый для вызначэння асаблівасцяў іх успрымання грамадзянскай супольна-

сці Беларусі. У даследаванні ўзялі ўдзел адзінаццаць рэспандэнтаў, адабраных па прынцыпе велічыні населенага пункта (ад сельсаветаў да сталіцы). Інтэрв'ю сярэдняй працягласцю 60 хвілін былі праведзены ў ліпені 2018 года.

## Асноўныя вынікі

Амаль палова насельніцтва Беларусі мае настроенасць на давер да людзей і лічыць давер умовай поспеху ў жыцці. Людзі з больш высокім узроўнем генералізаванага даверу схільныя больш давяраць грамадскім інстытутам. Жанчыны і людзі старэйшыя за 65 гадоў адрозніваюцца больш высокім узроўнем даверу ў цэлым і больш схільныя звязваць давер да людзей з поспехам у жыцці.

Разам з памяншэннем сацыяльнай арыентаванасці беларускай дзяржавы зніжаецца і вера ў тое, што яна возьме на сябе адказнасць за дабрабыт людзей. Жыхары Беларусі ў складаных жыццёвых сітуацыях схільныя больш спадзявацца на сябе, чым на дзяржаву. Працяг гэтай тэндэнцыі можа прывесці да росту грамадскай актыўнасці і павышэння цікавасці да грамадзянскага ўдзелу.

Беларусы больш схільныя не давяраць дзяржаўным і недзяржаўным сацыяльна-палітычным інстытутам, чым давяраць.

Арганізацыі грамадзянскай супольнасці маюць самы нізкі ў параўнанні з іншымі сацыяльнымі інстытутамі ўзровень даверу рэспандэнтаў, беларускія грамадзяне мала ведаюць пра іх дзейнасць.

На фоне невысокага ўзроўню інстытуцыйнага даверу актуалізуецца міжасабовы давер, а таксама давер да прадстаўнікоў пэўных сацыяльных і прафесійных груп. Постаць грамадскага актывіста мае больш высокі патэнцыял даверу ў параўнанні з грамадскімі арганізацыямі. У чыноўнікаў і палітыкаў — самы нізкі ўзровень даверу. Нягледзячы на нізкую інфармаванасць аб дзейнасці арганізацый грамадзянскай супольнасці і нізкі ўзровень даверу да іх, жыхары Беларусі маюць дастаткова ліберальныя погляды на адносіны дзяржавы і грамадзянскай супольнасці: на думку насельніцтва, дзяржава павінна ствараць спрыяльныя ўмовы для дзейнасці АГС, якія працуюць на законных падставах.

Патрабаванні, якія ўлады маюць права прад'яўляць да АГС, на думку беларусаў, таксама не мусяць выходзіць за межы захавання законнасці ў сваёй працы. Патрабаванні абмежавання кантактаў АГС з бізнесам і палітыкай, а таксама іх лаяльнасці да дзяржавы не з'яўляюцца актуальнымі для грамадзян. Грамадзяне таксама не лічаць, што адсутнасць як кааператыўнага, так і канфрантацыйнага ўзаемадзеяння з уладай неабходная.

Ціск з боку ўладаў на грамадзянскую супольнасць усведамляецца доляй насельніцтва, аднак пятая частка нашых суграмадзян не мае меркавання адносна ўмоваў працы арганізацый грамадзянскай супольнасці ў Беларусі.

Насельніцтва Беларусі ў большай ступені ўсведамляе ролю арганізацый грамадзянскай супольнасці як памочнікаў дзяржавы і грамадзян у вырашэнні сацыяль-

*Параўнанне вынікаў фокус-груп з прадстаўнікамі АГС і інтэрв'ю з прадстаўнікамі органаў мясцовага кіравання.*

| ПАРАМЕТРЫ | АЦЭНКА ПРАДСТАЎНІКАМІ ГРАМАДСТВА | АЦЭНКА ПРАДСТАЎНІКАМІ МЯСЦОВАГА КІРАВАННЯ |
|---|---|---|
| Ацэнка характару ўзаемаадносін | Ад плённага супрацоўніцтва да поўнай варожасці — у залежнасці ад сферы дзейнасці і блізкасці да цэнтра | Плённае супрацоўніцтва |
| Неабходнасць узаемадзеяння | Так, для прадстаўлення інтарэсаў і ўплыву на правілы гульні | Так, для ўзаемадапамогі |
| Наяўнасць праблем ва ўзаемадзеянні | Праблемы існуюць на ўсіх узроўнях: ад заканадаўства да ўласнага стаўлення чыноўнікаў | Праблем няма |
| Змяненне характару ўзаемадзеяння за апошнія 3–5 гадоў | Сітуацыя палепшылася, але не сістэмна і не ва ўсіх сферах | Сітуацыя палепшылася |
| Роля АГС | Крыніца фінансавых і арганізацыйных рэсурсаў для мясцовых уладаў | Памагатыя ў вырашэнні |
| Прафесіяналізм партнёраў па ўзаемадзеянні | Некампетэнтнасць чыноўнікаў у пытаннях узаемадзеяння з АГС і міжнароднымі арганізацыямі | АГС часам выступаюць як эксперты ў сваім вузкім полі дзейнасці (напрыклад, інваліды-калясачнікі) |
| Удзел АГС у грамадскіх саветах | Часам у залежнасці ад сферы: ад фікцыі да эфектыўнага ўзаемадзеяння | Як правіла, удзельнічаюць. Няма дыферэнцыяцыі паміж прадзяржаўнымі і незалежнымі АГС |
| Удзел АГС у публічных абмеркаваннях і кансультацыях | Так, арганізацыі выконваюць ролю фасілітатараў працэсу | Так |
| Удзел АГС у сумесных мерапрыемствах | Так | Так |
| Удзел беларускіх АГС у рэалізацыі дзяржпраграм і планаў на мясцовым узроўні | Як правіла, не, але яны ведаюць аб наяўнасці дзяржпраграм і планаў | Не, нізкая інфармаванасць аб наяўнасці і змесце такіх дакументаў |
| Уплыў на кіраўнічыя рашэнні ўладаў | Толькі праз сацыяльны заказ, дзяржаўна-прыватнае партнёрства | Так, у якасці механізмаў называюцца асабістыя сустрэчы, нарады, грамадскія абмеркаванні, звароты грамадзян |
| Дапамога АГС з боку органаў улады | Арганізацыйная дапамога ў сацыяльна-культурнай сферы | Арганізацыйная дапамога ў сацыяльна-культурнай сферы |

*Ацэнка рэспандэнтамі ступені даверу сацыяльным інстытутам, %*




ных праблем і абаронцаў правоў і інтарэсаў, функцыя незалежнага кантролю ўлады ўсведамляецца слаба. Неабходна больш інфармацыі пра ўплыў грамадзянскага ўдзелу і кантролю на якасць прыманых рашэнняў і пра спосабы яго ажыццяўлення, уключаючы практычныя прыклады.

Жыхары Беларусі схіляюцца да прыняцця рашэнняў пры шырокім грамадзянскім удзеле. Аднак у іх разуменні шырокі ўдзел азначае хутчэй уцягванне зацікаўленых бакоў (арганізацый і грамадзян, кампетэнтных у канкрэтным пытанні), чым удзел усіх жадаючых.

Людзі лічаць грамадскія абмеркаванні і дасыланне прапаноў у дзяржаўныя органы дастаткова эфектыўным спосабам удзелу, але самі не гатовы ў гэтым браць удзел. Можна меркаваць, што грамадскія арганізацыі знойдуць падтрымку грамадзян, прапаноўваючы ўласную экспертызу ў данясенні іх думкі да ўлады, а таксама выступаючы фасілітатарамі і пасрэднікамі між грамадзянамі і дзяржавай у дыскусіі з нагоды рашэнняў, што прымаюцца імі.

*Якія патрабаванні, на ваш погляд, дзяржава мае права прад'яўляць грамадскім аб'яднанням і іншым некамерцыйным арганізацыям?*

| Варыянты адказаў | Доля тых, хто даў адказ, % |
|---|---|
| Не ўдзельнічаць у карупцыі, ухіленні ад падаткаў, прыкрыцці нядобрасумленнага бізнесу | 50,2 |
| Строга выконваць законы | 47,8 |
| Прадстаўляць падрабязную і дакладную справаздачнасць | 31,6 |
| Весці высокаэфектыўную дзейнасць | 26,3 |
| Узгадняць мэты і задачы дзейнасці арганізацыі з дзяржаўнымі органамі | 16,5 |
| Ніякіх | 7,4 |
| Праяўляць лаяльнасць да ўлады, падтрымліваць яе ініцыятывы | 6,9 |
| Складана адказаць / Няма адказу | 6,4 |
| Адмовіцца ад падтрымкі з-за мяжы | 5,8 |
| Не ўдзельнічаць у палітычнай дзейнасці | 5,1 |
| Адмовіцца ад цесных кантактаў з бізнесам | 1,8 |

# **Нацыянальнае апытанне** пра ўзровень грамадскай дасведчанасці і актыўнасці беларусаў



| | |
|---|---|
| **Год правядзення:** | 2019 |
| **Галіна:** | сацыялогія, грамадскае меркаванне, публічная палітыка |
| **Ключавыя словы:** | грамадская актыўнасць, грамадская дасведчанасць, грамадскі давер |
| **Арганізацыя:** | Міжнародная арганізацыя Pact.<br>Pact – гэта міжнародная арганізацыя, якая дамагае будаваць па ўсім свеце моцныя супольнасці, здольныя забяспечыць сабе годнае існаванне і ўдзел у дэмакратычных працэсах.<br><br>У Беларусі Pact працуе з 2005 года. Дзейнасць Pact накіравана на ўзмацненне і развіццё грамадзянскай супольнасці, пашырэнне доступу да аб’ектыўнай інфармацыі і ўключэнне грамадзян у пазітыўныя сацыяльныя змены на мясцовым і нацыянальным узроўнях.<br><br>З 2011 года Pact рэгулярна збірае сацыялагічныя дадзеныя па асноўных сацыяльна-палітычных і эканамічных тэндэнцыях Беларусі, супрацоўнічае з незалежнымі беларускімі кампаніямі, якія праводзяць апытанні насельніцтва. |
| **Кантакты:** | https://www.pactworld.org<br>agolontsov@pactworld.org |
| **Спасылка на публікацыю:** | Калі ласка, націсніце тут |
| **Аўтары і партнёры:** | Па замове Pact нацыянальнае апытанне было праведзенае кампаніяй MIA Research у жніўні – верасні 2019 года. |

## Мэта

Даследаванне ладзілася з мэтай атрымаць інфармацыю пра ўзровень грамадскай дасведчаннасці і актыўнасці беларусаў.

## Метады і методыкі

Індывідуальнае апытанне (анкетаванне) па месцы жыхарства. Колькасць апытаных: 1507 чалавек, дапушчальная памылка выбаркі — 3%.

Анкета, якая выкарыстоўвалася для апытання, была апрабаваная ў 2018 годзе, што дазваляе рабіць параўнанні з вынікамі мінулага года. Вынікі даследавання даюць уяўленне пра тое, што думаюць беларусы пра адносіны паміж грамадзянамі і дзяржавай, як ставяцца да рэформаў, наколькі дасведчаныя пра дзейнасць арганізацый грамадзянскай супольнасці і давяраюць ім, які геапалітычны вектар абіраюць і як ставяцца да медыяпісьменнасці і гендарнай роўнасці.

## Асноўныя вынікі

Уяўленні беларусаў пра ўплыў на органы дзяржаўнай улады, як і стаўленне да рэформаў, застаюцца практычна нязменныя. Як і летась, большасць рэспандэнтаў (каля 80%) не лічаць, што іх дзеянні ўплываюць на органы дзяржаўнай улады на нацыянальным і мясцовым узроўнях. 36% грамадзян (у 2018 годзе — 32%) лічаць, што Беларусі патрэбныя рэформы па змяншэнні ролі дзяржавы. У той жа час колькасць тых, хто лічыць, што рэформы павінны праводзіцца жорсткім шляхам, скарацілася з 19% (2018) да 12% (2019). Эканоміка, ахова здароўя і пенсійная сістэма застаюцца прыярытэтнымі з пункту гледжання неабходнасці рэформ.

Дасведчанасць грамадзян пра арганізацыі грамадзянскай супольнасці застаецца нізкай. 61% беларусаў нічога не ведае пра дзейнасць недзяржаўных грамадскіх арганізацый (НДА); у 2018 годзе гэты паказнік складаў 68%. Больш за тое, удакладняльныя пытанні паказваюць, што ўзровень недасведчанасці па тэматычных сектарах нават вышэйшы. Напрыклад, 81% беларусаў не ведае пра дзейнасць НДА, якія займаюцца грамадскай адукацыяй, 78% — праваабарончых арганізацый. Такі ўзровень характэрны і датычна арганізацый іншых сектараў грамадзянскай супольнасці. Нізкі ўзровень дасведчанасці грамадзян пра дзейнасць НДА мае ўплыў на ўзровень даверу грамадзян да арганізацый грамадзянскай супольнасці.

Нізкі ўзровень дасведчанасці пра дзейнасць НДА працягвае негатыўна ўздзейнічаць на ўзровень грамадзянскага ўдзелу. Толькі 3% беларусаў бралі ўдзел у дзейнасці НДА ў 2019 годзе (гэтая лічба на змянілася з мінулага года). Больш за палову тых, хто не ўдзельнічаў, тлумачаць гэта адсутнасцю інфармацыі пра магчымасці ўдзелу. У той жа час 10% грамадзян сведчаць, што ўдзельнічалі ў грамадска карысных мерапрыемствах, арганізаваных грамадзянамі самастойна. Гэта можа сведчыць пра тое, што беларусы больш схільныя да ўдзелу ў нефармальных ініцыятывах, чым у дзейнасці арганізацый. Узровень удзелу ў вырашэнні праблем сваёй мясцовай супольнасці (двор, пад'езд, вуліца) традыцыйна застаецца высокім (43%).

